Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 12 (48) 22-28 сакавіка 1996 года

Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Выдаўцы і кіраўнікі недзяржаўных выданняў правялі канферэнцыю

***МІНСК. Першая нацыянальная канферэнцыя выдаўцоў незалежнай прэсы прайшла 15-16 сакавіка ў Мінску.***

Канферэнцыю арганізавалі Беларуская асацыяцыя журналістаў і цэнтр "Супольнасць" пры падтрымцы Інстытута на карысць дэмакратыі ва Усходняй Еўропе, Мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра і Беларускага Фонда Сораса.

Сярод дакладчыкаў і ўдзельнікаў дыскусій былі намеснік старшыні камісіі ВС па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, СМІ Уладзімір Нісцюк, старшыня падкамісіі ВС па СМІ Аляксандр Дабравольскі, выдаўцы і рэдактары вядучых недзяржаўных і рэгіянальных газет, госці з замежжа.

Абмеркаванне, часам вострае, вылілася ў прыняцце зварота канферэнцыі да Беларускай грамадскасці і ўлад. У прыватнасці, канферэнцыя выступіла з ініцыятывай абароны беларускага друкаванага слова шляхам унясення дапаўненяў у Закон аб друку (падатковыя льготы для выдаўцоў). Прысутная на канферэнцыі каардынатар Міжнароданай федэрацыі выдаўцоў газет доктар Аралін Мак-Мэйн паабяцала праінфармаваць еўрапейскую супольнасць, у прыватнасці Савет Еўропы, аб становішчы нашай мовы ў прэсе Беларусі.

Ад "Рэгіянальнай газеты" у рабоце канферэнцыі ўзяў удзел галоўны рэдактар Аляксандр Манцэвіч.

***Аддзел інфармацыі.***

## Свята пахла нафтаю

***МАЛАДЗЕЧНА. Зусім не са святочных клопатаў пачаўся Дзень Канстытуцыі на мясцовых электрычных сетках: у 6.30 пры перапампоўванні паліва на ЦЭЦ-2 адбылася ўцечка мазуты.***

Дзякуючы аператыўна прынятым мерам (абсталёўванне тэрыторыі, узвядзенне плацінаў з сена і пілавіння і г. д.) толькі невялікая колькасць яе— прыблізна каля паўтоны, трапіла ў ліўнёвую каналізацыю. Цяпер гаррайінспекцыя па экалогіі ацэньвае ўрон, нанесены навакольнаму асяроддзю, каб выставіць вінаватым штраф недзе каля двух мільёнаў рублёў. У якую суму абыдзецца прадпрыемству нядбайнасць работнікаў, пакуль можна толькі меркаваць.

Для высвятлення прычын аварыі і кантролю за ліквідацыяй яе вынікаў створаны штаб, які ўзначальвае генеральны дырэктар ВА "Камунальнік" Э. Вітkoўскі.

***Аддзел інфармацыі.***

## Дах не паехаў

***Днямі ў рэд... ю зайшла жанчына, сказала, што на Ашмяншчыне адбылося надзвычайнае здарэнне: ў вёсцы Баруны абваліўся школьны дах. Пашчасціла вучням, што гэта адбылося ў 6.30 гадзін раніцы.***

Мы папрасілі Міхаіла Высоцкага, загадчыка раённага аддзела адукацыі, даць каментарый здарэнню:

- "У баруноўскай школе дах не абвальваўся, не абваліўся, і наогул небяспечная сітуацыя не ўзнікала. Гэта ўсё чуткі. Сапраўды, ў школе адной з маленькіх вёсак дах знаходзіўся ў аварыйным стане. Мы выдзелілі сродкі і правялі неабходныя прафілактычныя работы па ўмацаванню даха".

***Аддзел інфармацыі.***

## Гадавіна БНР

***25 сакавіка спаўняецца 78-я гадавіна абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.***

Прыклад БНР— ёсць прыклад будаўніцтва незалежнай Беларусі ў сучаснай Еўропе. Еўрапейская супольнасць першай паловы XX стагоддзя прызнала Беларусь, аб чым сведчылі інтэнсіўныя кантакты з рознымі краінамі, не толькі суседзямі. Вялося таксама ўнутрыдзяржаўнае будаўніцтва, стваралася нацыянальная эканоміка, пачынала ўзнімацца культура.

Шлях БНР быў кароткім. Але ён стаў пачаткам адраджэння народа, дзяржавы.

Святкаванне гадавіны БНР адбудзецца не толькі ў сталіцы. У Маладзечне кіраўнікамі дэмакратычных арганізацый створаны аргкамітэт, які плануе правесці 25-га сакавіка ў 17.15 святочны мітынг на гарадскім стадыёне. Пройдзе таксама і выстаўка маладзечанскіх мастакоў, прысвечаная святу.

***Аддзел інфармацыі.***

## На "вуліцу прадпрымальніцтва" ў Вілейцы свята яшчэ не прыйшло

***Васіль Валадкевіч, намеснік старшыні гарвыканкома:***

—У горадзе зарэгістравана 55 малых прадпрыемстваў і таварыстваў з абмежаванай адказнасцю, 9 акцыянерных таварыстваў, 695 прыватных прадпрымальнікаў. Гэта каля паўтары тысячы рабочых месцаў. Толькі ад прадпрымальнікаў у мясцовы бюджэт за мінулы год паступіла 449 мільёнаў рублёў. 82 прыватнікі аказваюць бытавыя паслугі: рамантуюць гадзіннікі, робяць прычоскі, фатаграфуюць, граюць на вяселлях і ўрачыстасцях...

Па колькасці рабочых месцаў лідзіруе будаўнічае вытворча-камерцыйнае прадпрыемства "ДМТ". З моманту рэгістрацыі ў 1992 годзе тут знайшлі работу 125 чалавек.

ТАА "Беламполь-Вілейка" расчыніла дзверы кафэ перад маленькімі наведвальнікамі і прапануе шэсць відаў марожанага. Прадпрымальнік Скобла вось-вось павінен адкрыць дзіцячае кафэ ў раёне завода "Зеніт". ВКФ "Норд" адкрыла прадуктовы магазін, у якім якасць і кошт тавараў задавальняюць пакупнікоў.

У горадзе камерцыйныя структуры выпрабляюць мэблю, шыюць, вяжуць, ствараюць інтэр'еры памяшканняў. Але асноўны зачятак— перапродаж. Па словах Васіля Валадкевіча, лепей, каб сапраўдных вытворцаў было значна больш. І тады на "вуліцу прадпрымальніцтва" прыйшло б свята.

***Васіль САВІЦКІ.***

**Рэгіён напярэдадні паводкі**

## На Смаргоншчыне рыхтуюцца да эвакуацыі

***Аляксей Пятроў, начальнік смаргонскага штаба грамадзянскай абароны, вызначае на карце найбольш небяспечныя раёны.***

На Рачунскім вадасховішчы калісьці працавала ГЭС. Дваццаць чатыры мільёны кубаметраў вады на плошчы 165 гектараў трэба абавязкова стрымаць. З запланаваных уладамі сродкаў, а гэта 527 мільёнаў рублёў, на прафілактычныя мерапрыемствы выдаткавана 373 мільёны. Выканаы 550-мятровы канал,— сем метраў у шырыню і два ў глыбіню,— па якому вада ідзе ў возера Рыжае. Дамба, пабудаваная ў 60-я гады, умацавана па баках пяском. Ці вытрымае яна націск вады? Калі дамбу прарве, вада пойдзе на вёскі Бярозавая Рошча, Кудзішкі. Змые дарогу, і пяць вёсак адрэжа ад цывілізацыі. Калі дамба ўтрымае націск, вада падымецца ў возеры Рыжае. Што таксама небяспечна для жыхароў Бярозавай Рошчы і Кудзішак. Таму не пазбегнуць эвакуацыі.

У гэтых вёсачках (у адной 12, у другой 23 чалавекі) будуць знаходзіцца ў гатоўнасці нумар адзін аўтобусы, грузавікі. Наладзяць кругласутачнае дзяжурства ўрачы, міліцыя, іншыя службы.

Уздоўж Віліі таксама адзначаны крытычныя месцы. Вёскі Рудня, Перавозы будуць падтоплены. Эвакуацыйная камісія абышла ўсе хаты. Людзі не хочуць пакідаць дамы. І калі масавай эвакуацыі можна будзе пазбегнуць, то пераезды з затопленых двароў будуць абавязкова. Дзевяностасямігадовы жыхар вёскі Перавозы пажадаў на нейкі тэрмін легчы ў бальніцу, каб не нервавацца і спакойна перажыць наваднене. І як не нервавацца, калі ў суседзяў— вёсцы Міхалішкі Астравецкага раёна,— па прагнозах, узровень вады падымецца звыш пяці метраў.

Пагражаюць і невялікія рэкі. Напрыклад, рака Ашмянка можа падтапіць вёску Солы. Таму прапрацоўваюцца пытанні на крытычных участках ракі, на баках плануецца насыпаць пясок, каб яна не выйшла з берагоў.

***Васіль САВІЦКІ.***

**Навіны рэгіёна**

## У нашым рэгіёне— новая газета

***Дакладней, выйшаў другі нумар інфармацыйна-рэкламнай газеты "MEGA-inform". Першы пабачыў свет летась.***

У спецыяльным выпуску "M-i", які выйшаў 2-тысячным тыражом, ідзе гаворка аб камп'ютэрнай і аргтэхніцы, тэхналогіях. Гэта газета, як піша рэдакцыя "M-i", "дастаткова вузканакіраваная, часткова прызначаная для спецыялістаў, а больш для тых, хто такімі хоча стаць".

Газета выдаецца ў Маладзечне. Дапамаглі рэдакцыі ў выхадзе аднаўленай "M-i" фірмы "Камп'ютэр-Сервіс", "ЕўраСпутнік", "Белфорт". Рэдагуе цікавае выданне Юрый Сівіцкі. Тэлефон рэдакцыі 73256.

***Аддзел інфармацыі.***

## Статыстыка не пакідае надзеі

***За першыя два месяцы года на Валожыншчыне нарадзілася 48 немаўлят.***

Лічба сама па сабе ні пра што не гаворыць: многа гэта ці мала? Вось у параўнанні са смяротнасцю, а за гэты самы час памерла 252 чалавекі,— у пяць разоў больш, чым нарадзілася, разумееш, што шанц неўзабаве знікнуць ёсць не толькі ў адзінкавых вёсачак, а ў цэлых сельсаветаў. Нараджальнасць можна крыху рэгуляваць эканамічнымі метадамі, але дзяржава рабіць гэта не збіраецца.

У той жа час на Валожыншчыне створана 41 новая сям'я. Праўда, 14 шлюбаў не вытрымалі праверкі часам. Амаль кожны трэці— развальваецца.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

## Смяротны выпадак

***Колькасць трагічных здарэнняў не памяншаецца нават з надыходам жыццялюбнай вясны.***

У Маладзечне вечарам 2 сакавіка на другім паверсе офіса МП "Каскад" адбыўся пажар. Полымя часткова знішчыла два будынкі, калі ў памяшканні знайшлі труп мужчыны. Як вызначылася значна пазней, гэта быў дырэктар фірмы "Луанда", 24-гадовы Васіль Красоўскі. Ён памёр ад атручвання чадным газам.

***Святлана САРОКА.***

## Больш мерзлі, але менш плацілі

***АСТРАВЕЦ. Прыемна канстатаваць той факт, што ў складанай сітуацыі гэтай зімой абышлося без надзвычайных здарэнняў.***

Праўда, ў Астраўцы жыхары двух дамоў па вуліцы Ленінскай звярнуліся ў аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі са скаргамі на холад у кватэрах. Там іх выслухалі, праверылі факты і ... напалову знізілі плату за цяпло.

Адбылося ўсё з той прычыны, што з увядзеннем новай кацельні на газавым паліве не адрэгулявалі апаратуру падачы цяпла. Як толькі гэта будзе вырашана, то ўсе праблемы знікнуць.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

## Горкія грошы

***МАЛАДЗЕЧНА. Работнікам спіртзавода "Маліноўшчынскі" пашчасціла.***

Напярэдадні 8-га Сакавіка адміністрацыя прапанавала заработную плату таварам. Жадаючыя знайшліся. Мой сусед дацягнуў да дому 120 бутэлек "Рускай". Ведаючы яго звычкі, характар, лічу, што свята там толькі пачалося.

***Васіль САВІЦКІ.***

## Я табе рукавіцы— ты мне каўбасы

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. На пашыў спецвопраткі для маладзечанскіх і мінскіх заводаў і фабрык вымушана перайсці невялікае вытворча-гандлёвае прадпрыемства "Арніка", чатыры гады таму створанае ў пасёлку Чысць. Цывільныя ўбранні для беларусаў нашылі туркі, кітайцы і палякі, у выніку прадукцыя айчынных швейных фабрык засталася незапатрабаванай.***

Спецвопратку пакуль з-за мяжы не возяць, вось і заключаюць швейнікі бартэрныя здзелкі з аўтамабілістамі, мэбельшчыкамі, будаўнікамі. Грашыма мала хто разлічваецца, у асноўным— сваёй прадукцыяй. Добра, калі гэта каўбаса ці мяса з Аляхновіцкай птушкафабрыкі, што можна раздаць работнікам у лік зарплаты. Ці гарнітуры ад "Маладзечнамэблі", якія можна ўзяць у растэрміноўку. А што рабіць з будматэрыяламі, абсталяваннем?

Тут на дапамогу швейнікам прыходзіць мясцовае АТ "Забудова", якое купляе ўсё гэта для сваіх прадпрыемстваў. Кіраўніцтва таварыства разумее, як важна для ста жанчын з "Арнікі" не страціць свае рабочыя месцы, атрымаць зарплату, няхай і невялікую. У пасёлку будаўнікоў ім цяжка было б знайсці сабе іншы занятак.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

## Шашку Будзёнага і самурайскі меч? Няма праблем!

***—Сцізорык, складанчык— любы нож кідком утыркну ў дрэва, не горш за "спяца" паветрана-дэсантных войскаў,— запэўнівае Дзмітрый Сцяпанаў.***

- Хіба можна рабіць нажы і не выкарыстоўваць усе іх магчымасці? Некалі выканаў заказ для войскаў спецыяльнага прызначэння. Самастойна распрацаваў эскіз, узгадніў з людзьмі ў пагонах. Праз нейкі час у вайсковую часць прывёз пяць эксперыментальных узораў. Што толькі з маімі вырабамі ні рабілі: імі секлі цвікі, пракусвалі дрот, выкопвалі і ўздымалі бетонныя пліты, сачылі за балансіроўкай у кідку. Прайшла апрабацыя, і ваенныя далі "дабро" на заказ.

Дзмітрый— работнік Маладзечанскага вытворчага прадпрыемства "Пралеска". Ёй выдадзена ліцэнзія за на выраб халоднай зброі (распаўсюджванне— толькі праз магазіны паляўнічых і рыбаловаў).

—Кожны нож мае свой нумар, быццам дату нараджэння. Сыравіну шукаем і закупляем па ўсёй рэспубліцы,— гаворыць майстар Сцяпанаў,— у нас ёсць свае распрацоўкі, каталогі. Ну, а калі заказчык прынясе каталог старадаўняй халоднай зброі, зробім і самурайскія мячы, і шашку Будзёнага.

*Васіль САВІЦКІ.*

## 22 кг замест нагі – клопат дзяржавы

***МАЛАДЗЕЧНА. У клубе "Шураві" збіраліся былыя "афганцы", каб вырашыць бытавя праблемы, атрымаць дапамогу. Каля 200 чалавек з Маладзечаншчыны прайшлі Афганістан. Чым сёння жывуць яны? Аб гэтым размаўляю з Аляксандрам Вырвам, былым кіраўніком клуба.***

***—Аляксандр, дык хто вы на самой справе: воіны-інтэрнацыяналісты ці ветэраны вайны?***

—Мы не толькі ваявалі. На поўдзень ішлі вагоны з цукрам, рысам. На блокпастах салдаты кармілі дзяцей. Інжынерныя службы ўзводзілі масты...

***—Салдат вучылі забіваць.***

—На жаль, афганец з вёскі Лебедзева сядзіць у турме за забойства. Мысленне яго пасля службы не змянілася. Абцяжарваючымі віну абставінамі якраз з'явілася яго ўменне забіваць.

***—Як уладкаваліся ў жыцці воіны-інваліды?***

—Іх у нас сямёра. Тых, хто працаваў на вытворчасці, паскарачалі. Двое ўладкаваліся ў дзіцячы садок "начнымі дырэктарамі". Трое сядзяць дома і адчуваюць дзяржаўны клопат— ад 360 да 500 тысяч рублёў у месяц. Ва ўсіх сем'і.

Трое спіліся. Двух падлячылі, а вось трэці ніяк не згаджаецца. Можа, яму і немагчыма дапамагчы.

Двое з сямі інвалідаў ходзяць на пратэзах вагой ад 16 да 22 кілаграмаў кожны. Добра было б набыць імпартныя, якія важаць 4-5 кілаграмаў.

У дрэннае надвор'е хлопцы скардзяцца на здароўе: "Ух, пята свярбіць наназе, якую ўрачы аднялі восем гадоў таму".

З лекамі праблем няма, бо няма саміх лекаў. У камерцыйнай аптэцы адносіны камерцыйныя, не сунешся.

Медыкі да нас ставяцца з павагай, сардэчна. Чым змогуць— дапамогуць. Але, як гавораць, позна піць баржом, калі ныркі адваліліся.

***—А колькі загінула на вайне з маладзечанцаў?***

—Семярых прывезлі ў цынкавых трунах. Адзін памёр ад ран дома.

***—Памятаю, вы хацелі наладзіць вытворчасць?***

—Афганцы хацелі зарабляць грошы, а не стаяць з працягнутай рукой. Марылі на базе завода парашковай металургіі адкрыць цэх па напыленню керамічных вырабаў. Мары засталіся марамі. Ды і клуба "Шураві" ужо не існуе. З тымі, хто пайшоў у камерцыю, поўнасцю згубілася сувязь. Бытавыя праблемы ў поўным сэнсе душаць. Не бачымся. Нават Дзень памяці адзначылі ўпяцёх.

*Гутарыў Васіль САВІЦКІ.*

## Заслуга вілейчан у тым, што Маладзечна абышло іх па беспрацоўю

***Той, хто не працаваў на заводзе "Зеніт", быццам і не жыхар Вілейкі.***

Жарт, але не так многа ў трыццацітысячным горадзе буйных прадпрыемстваў: мэблевая фабрыка, рамонтны завод, ААТ "Буддэталь". І, безумоўна, "Зеніт", які забяспечваў работай каля пяці тысяч гараджан. Сёння, калі гаворым аб вытворчасці, часцей ужываем словы "нестабільнасць", "крэдыт", "скарачэнне". Каму не пашчасціла, хто пазбавіўся заробкаў, ідзе да Соф'і Лаўрыновіч, дырэктара рэгіянальнага цэнтра занятасці насельніцтва.

***—Соф'я Іванаўна, колькі ў вас на ўліку чалавек?***

—На сёння дакладная лічба 1535. Але кожны дзень здымаем з уліку, прымаем на ўлік— бесперапынны працэс. Па выніках мінулага года занялі трэцяе месца ў вобласці па ўзроўню беспрацоўя. Прапусцілі наперад Пухавічы і Салігорск. Ну, а на сёння нас ужо Маладзечна абышло. Стан спраў паляпшаецца.

***—За кошт чаго гэта адбываецца?***

—Дапамагаем людзям пераўладкавацца. Калі ёсць у іх жаданне і патрэба, вучым за дзяржаўны кошт. Вось цяпер 19 жанчын паслалі ў Маладзечна на курсы бухгалтараў. Звычайна нашы вадзіцелі ў Маладзечне павышаюць класнасць. Мінск прапануе розныя спецыяльнасці: менеджэра, машыністкі, закройшчыцы...

***—Але не ўсе спецыяльнасці патрэбны на Вілейшчыне.***

—У сярэднім маем каля 20 вакансій. Сёння патрэбны жывёлаводы, галоўныя бухгалтары, экскаватаршчык. Упэўнена, што ў маі будуць заяўкі на людзей з будаўнічымі спецыяльнасцямі.

***—Больш жанчын ці мужчын трапляе да вас?***

—87 працэнтаў жанчын. 85 працэнтаў усіх наведвальнікаў людзі з рабочымі спецыяльнасцямі. Настаўнікаў, медсясцёр, урачоў уладкоўваем вельмі хутка. На ўліку стаяць эканамісты, бухгалтары, выхавацелі дзіцячых садкоў. Многа ў нас інжынераў-механікаў.

***—Моладзі хапае?***

—41 працэнт— моладзь да 30 гадоў. 10 працэнтаў— навучэнцы ПТВ. Атрымаў юнак дыплом— і да нас. У Вілейцы аж тры прафесійна-тэхнічныя вучылішчы.

***—Няўжо маладым няма дзе падзарабіць?***

—У нас наладжана добрая сувязь з прадпрыемствамі, гаспадаркамі раёна. Летась 88 чалавек працавалі на грамадскіх (часовых) работах.

***—Звяртаюцца людзі з крыўдамі на сваё кіраўніцтва?***

—У нас дзейнічае пагаджальная камісія, якая на ўзроўні выканкома і кіраўнікоў прадпрыемстваў вырашае ўсе пытанні працоўных спрэчак.

*Гутарыў Васіль САВІЦКІ.*

## Як ратавацца беспрацоўнаму?

***Амаль тры гады таму адкрыўся цэнтр перападрыхтоўкі і працаўладкавання ваеннаслужачых запасу Міністэрства абароны (БЦПП МА РБ). Ён размяшчаецца ў Калодзішчах, прымае на навучанне ўсіх жадаючых.***

Першы цыкл перападрыхтоўкі праходзіў з накірункамі: менеджмент, маркетынг, знешнеэканамічная дзейнасць, фінансава-крэдытная дзейнасць, бухгалтарскі ўлік, камерцыйная і фінансава-крэдытная дзейнасць, а таксама аўтасервіс, дрэваапрацоўка, рамонт і выкарыстанне ПЭВМ. Адбыліся 4 выпускі слухачоў БЦПП, праходзяць перападрыхтоўку пяты і шосты наборы.

Усе расходы па перападрыхтоўцы ваеннаслужачых запасу ўзяло на сябе Міністэрства абароны, а за беспрацоўных, накіраваных цэнтрамі занятасці насельніцтва, плаціць Міністэрства працы. Акрамя гэтага штомесячна выплачваецца стыпендія па ўстаноўленых нормах. Цэнтр мае статус інстытута павышэння кваліфікацыі.

*Анатоль МАЗГОЎ.*

## Ракіроўка?

***МАЛАДЗЕЧНА. Днямі тут адбыўся справаздачна-выбарчы сход мясцовай арганізацыі БНФ. На сходзе абмяркоўваліся як поспехі, так і пралікі фронтаўцаў падчас правядзення рэферэндуму, веснавых і восеньскіх выбараў, напрамкі будучай дзейнасці. Дыскусія была вострай і канструктыўнай.***

Але як дайшло да перавыбараў кіраўніцтва Рады, то аказалася, што выбіраць асабліва і няма з каго. Сход пайшоў на цікавы крок— зрабіў своеасаблівую "ракіроўку": былы старшыня Рады Алесь Цадко стаў намеснікам, а яго намеснік Алесь Капуцкі— старшынёй.

Ці дапаможа "ракіроўка" актывізаваць дзейнасць "фронтаўцаў", пакуль яшчэ сказаць цяжка. Але тое, што ў Раду БНФ увайшло шмат новых людзей, дае спадзяванні на пэўную актывізацыю. Тым больш, што пры Радзе плануецца стварыць своеасаблівы "мазгавы цэнтр" для распрацоўкі тактыкі і стратэгіі дзейнасці арганізацыі ў горадзе.

*Андрэй БОЖКА.*

## "Павязалі"

***мінчанку, якая хацела купіць тавар за 50 фальшывых долараў ЗША ў камерцыйным кіёску на Маладзечанскай чыгунцы.***

Каб не было страшна, маладзіца з сабою ўзяла мясцовых сяброўак. Аднак пакуль прадавец быццам шукала рэшту, яе памочніца хутка збегала ў міліцыю.

Аказалася, што мінчанка працуе ў камерцыйным кіёску сталіцы і днямі "пракалолася", прыняўшы фальшыўку. А ў Маладзечна прыехала, каб пазбавіцца ад яе.

*Аддзел інфармацыі.*

## Тры пакаленні самадзейных артыстаў

***прынялі ўдзел ў заключным гала-канцэрце агляду мастацкай самадзейнасці Маладзечанскага раёна. Пяць год споўнілася пачынаючай спявачцы Каці Алешцы з в. Маліноўшчына.***

Удзельніцы ж фальклорнага гурта з в. Мазалі па ўзросту могуць быць яе бабулямі, а то і прабабулямі. Але ўсіх аб'яднали цудоўныя песні, танцы, байкі, іншыя канцэртныя нумары, якіх у праграме было больш за семдзесят.

Лепшыя будуць адабраныя для ўдзелу ў абласным занальным конкурсе-аглядзе, які ў канцы сакавіка пройдзе ў Вілейцы.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## Сумныя назіранні вахцёра інтэрната

***Вахцёра не трэба цягнуць за язык, ён і сам усё раскажа. Бо язык— асноўная прылада працы чалавека, які ажыццяўляе прапускны рэжым у інтэрнаце.***

Вольга— з вёскі, уладкавалася на завод спачатку прыбіральшчыцай, потым "пайшла ўгару"— набыла спецыяльнасць. Надзіва хваткая, кампанейская— усё часцей у пакойчыку збіраліся хлопцы. Першы званочак— вымова на вытворчасці. Сціплыя сяброўкі перасталі вітацца, абыходзілі. Вольга афіцыйна ўступіла ў шлюб, і мужыка знайшла сабе не абы-каго, а з крымінальным мінулым. Штогод нараджаліся дзеці. Поўзалі малечы па калідоры, ад голаду ўсім у рот глядзелі, бо Вольга, як у той песні— "Якім ты быў, такім застаўся"— піла, калі грошы ў доме былі. Не было за што купляць— гасцей да сябе запрашала, а потым па-жаночы разлічвалася. Мужык па мянушцы Салідол таксама выпіваў, але галаву не губляў. Вазелінавымі рукамі-кувалдамі ўсё часцей і часцей вучыў жонку жыць. За два дні да забойства Вольга хадзіла ля сценак, не магла распраміцца. Гавораць, былі адбітыя ныркі. Яе знайшлі ў пакоі, расціснутай халадзільнікам.

На пляцоўцы паміж восьмым і дзевятым паверхамі даволі доўга жыў "бомж". Карыстаўся агульнай кухняй, дакладней тым, што на ёй варылася і смажылася. Краў ежу разам з посудам.

Больш за ўсіх церпяць вахцёры. Жанчына гадоў трыццаці ўладкавалася на гэту работу. Праз некаторы час жыхары інтэрната яе згвалцілі. Набыла маральную траўму і згубіла работу (па асабістаму жаданню).

Гадзіна ночы. Да вахцёра зверху падыходзіць жылец і, паказваючы сапраўдны пісталет, просіць пакарыстацца тэлефонам.

Жывуць ў інтэрнаце і добразычлівыя, апантаныя людзі. Але, як кажуць, з песні слова не выкінеш, так і з гісторыі інтэрната нельга выкінуць гэтыя сумныя назіранні вахцёра.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Ударам на ўдар

<u>—Мы абаронім прадпрымальніка і яго маёмасць: кватэру, дачу, магазін,— упэўнены дырэктар службы бяспекі "Слявянін" Аляксандр Клемантовіч.</u>

***—Ну, а мяне хто абароніць, маю сям'ю, тых, хто не займаецца камерцыйнай дзейнасцю,— міліцыя?— пытаюся.***

—Мы не бюджэтная арганізацыя і самі зарабляем грошы. Нашы паслугі платныя.

***-"Славянін" яшчэ ва ўзросце немаўля, хаця ёсць напрацоўкі, станоўчыя вынікі. І ўсё ж Маладзечна маленькі горад.***

—Ідзе пошук новых напрамкаў работы. Возьмем на сябе ахову зон адпачынку ў летні час, дзяжурства на мерапрыемствах, адкрываем курсы па навучанню прыёмам самаабароны.

***—Службу аховы часцяком звязваюць з рэкетам.***

—На дзевяноста працэнтаў абывацелі так і думаюць, быццам мы злодзеі і займаемся вымагальніцтвам.

***—Навошта прадпрыемствам рызыкаваць— здаецца, лепш плаціць "бандытам": тыя ж спартсмены, тая ж ахова.***

—Мы афіцыйная ўстанова, маем адрас, і, калі спрацуем няўдала, кампенсуем матэрыяльныя страты.

***—Хто вашы супрацоўнікі?***

—Падтрымліваем сувязь з ваенкаматам, да нас прысылаюць хлопцаў, якія служылі ў атрадах спецыяльнага прызначэння. Калі пашырымся, будзем запрашаць былых супрацоўнікаў КДБ. Нам патрэбны спецыялісты.

***—Выкарыстоўваеце зброю?***

—Газавую. Ёсць у нас і спецсродак "Удар", які добра прымяняць у месцах, дзе многа людзей. Патроны зараджаны вадкім газам. У асноўным імкнемся папярэдзіць канфлікт. А калі немагчыма, вырашаем яго ў рамках закону.

***—Колькі вам плацяць за работу?***

—Сума залежыць ад розных момантаў і вызначаецца пры заключэнні дагавора.

***—Ці звярталіся да вас з просьбай дапамагчы вярнуць доўг?***

—Звярталіся і звяртаюцца. У такіх выпадках раім звярнуцца ў суд. Калі ўладкоўваем на работу, правяраем хлопца, каб быў "чыстым".

***—Жанчыны ў службе працуюць?***

—На адміністрацыйных пасадах.

***—Вашы паслугі— толькі ахова?***

—Не абавязкова. Мы ўстановім дамафоны на ўваходах у пад'езды— заказвайце. Даем кансультацыі, напрыклад, дзе набыць газавую зброю. І ведайце: на ахове эканоміць нельга. Жыццё не раз даказвала— скупы плаціць двойчы.

*Гутарыў Васіль САВІЦКІ.*

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 25 марта

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. Недвижимость. 8.00 «Мне снилась музыка». Ф-конц. 8.30 Барби-лото. 9.00 «Буковка». 9.35 «Гостья из будущего». Х/ф. 1-я серия. 10.40 Финансовое время. 11.00 «Фрегат Мельпомены». Д/ф. 11.25 «Фруза». Х/ф. 15.00, 18.50, 0.00 Новости. 15.15 Мультфильмы. 15.40 Родовод. 16.35 Студия «Окно». «Танцевальные ритмы», «Классика дворов». 17.35 Параграф. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Финансовое время. 18.25 Экономикст. Недвижимость. 18.35 MTV. 19.05 «Крок». 19.40 «Это мы не проходили...» Экономическая программа. 19.55 Сев и финансы. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.45 Спортивный телекурьер. 22.10 Фильмотека. «Мальва». Х/ф. 23.30 Мастерская. Художник Анатолий Смолич. 23.45 «Еще не вечер...»

### ОРТ

14.00, 17.00, 23.00 Новости. 14.20 «Приключения в Одиссее». Мультсериал. 14.45 Марафон-15. 15.00 Звездный час. 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Джэм. 16.30 Семь дней спорта. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.05 Если. 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.40 Программа передач. 20.45 Фигурное катание. Чемпионат мира. 22.20 «Серебряный шар». 23.10 Линия кино. Фильм Ирины Евтеевой «Эликсир» и фильм Максима Пежемского «Переход товарища Чкалова через Северный полюс».

### Канал «Россия»

9.00 Империя игр. «Гладиаторы». 9.50 Ключевой момент. 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 «Искра божья». Д/ф. 11.00 Музыкальный экспромт. 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Разноцветная призма. 16.20 Новая линия. 16.50 Мульти-пульти. 17.00 От «винта». 17.15 Спасение 911. 18.10 L-клуб. 19.25 Подробности. 19.35 «Клан». Х/ф. 21.00 Без ретуши. 21.50 Клип-антракт. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Репортер. 22.55 «Спрут-6». Х/ф (Италия).

### Санкт-Петербург

16.45 «Чувство свободы». Х/ф (Англия). 18.10 Большой фестиваль. 18.30, 21.45 Информ ТВ. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». Сериал. 19.45, 21.40 Музыкальный момент. 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 «Бурса». Х/ф. 21.05 Экспресс-кино. 21.20 Мультфильм для взрослых. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.15 Телекомпакт. 22.55 Овертайм. 22.30 «Телекомпакт». Музыкальное шоу. 23.10 Овертайм.

### НТВ

17.00 Анонс недели. 17.05 «Чудесные годы». 17.30 Футбольный клуб. 18.00, 21.00, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Мир кино. Симона Синьоре, Жан Габен и Анш Корди в фильме Пьера Гранье-Дефера «Кот» (Франция). 20.30 РЕН-ТВ представляет: «Конюшня Юрия Роста. О вреде курения... а, может быть, о пользе». 21.35 Час сериала. «Слово». 1-я серия (США). 22.30 Времечко. 23.20 Музыкальная программа. «Пилот-2».

## Вторник, 26 марта

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 15.00, 18.50, 0.00 Новости. 8.15 Авто-парк. 8.30 Бездельник. 9.00 «Возвращение в Эдем». 9.55 «Будьте здоровы». 10.05 «Буковка». 10.35 «Кот в сапогах». Телеспектакль. 11.30 «Гостья из будущего». Х/ф. 2-я серия. 12.35 «Телевизионный АРТ-клуб». 15.00, 18.50, 0.00 Новости. 15.15 «Слушать в отсеках». Х/ф. 1-я серия. 16.20 «Все про все». 16.45 Студия «Окно». «Танцевальные ритмы», «Классика дворов». 17.20 Уроки Н.Новожиловой. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 На добрый лад. 18.15 «Будьте здоровы». 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 19.05 «Возвращение в Эдем». Телесериал. 20.05 Чернобыль: проблемы и решения. Прямая линия. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 Х/ф «Фиктивный брак». 23.30 Супергол.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.50 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.10 Если. Ведущий — В.Познер. 9.50 Смехопанорама. 10.15 Мультфильм. 10.30 «Угадай мелодию». 11.10 «Мы и рынок». 11.50 «Открытая книга». Фильм 2-й. 4-я серия. 14.20 «Приключения в Одиссее». 15.35 «Элен и ребята». 16.00 ...До шестнадцати и старше. 16.30 Семь дней спорта. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.05 «Чтобы помнили...» Н.Рыбников. 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.30 Операция. 20.45 Программа передач. 20.50 Х/ф «Чужая родня». 22.35 Москва — Кремль. 23.00 Концерт Лаймы Вайкуле. 23.55 Мультфильм для взрослых.

### Канал «Россия»

9.50 Ключевой момент. 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Музыкальный экспромт. 10.45 «Волшебный школьный автобус». Мультсериал. 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 «Мое сердце осталось в Норвегии». Д/ф (Норвегия). 15.45 Клип-антракт. 15.50 Месяцеслов. 16.25 Новая линия. 16.50 Клип-антракт. С.Беликов. 16.55 Стоп-кадр. 17.10 Чрезвычайный канал. 17.55 Кино с продолжением. «Петербургские тайны». 19.25 Подробности. 19.35 «Анкор, еще анкор». Х/ф. 21.25 Подиум. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Дневник фестиваля «Золотая маска». 22.55 Экран криминальных сообщений. 23.05 Звуковая дорожка.

### Санкт-Петербург

12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». Сериал. 13.10 Скорая помощь. 13.40 Советы садоводам. 13.50, 15.55, 21.35 Музыкальный момент. 14.05 «Бурса». Х/ф. 15.10 Экспресс-кино. 15.40 «Немецкая волна». 16.00 Стиль жизни. 16.15 Овертайм. 16.30 Детское ТВ. Три колеса, фолиант и... 17.00 По всей России. 17.10 Показывает областная телекомпания. 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». Сериал. 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 «Судный день». Х/ф (Узбекистан). 21.15 Д.Шостакович. «Сатиры Саши Черного». Исполняет Галина Вишневская. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.15 Дом кино. «Поговорим о странностях любви».

### НТВ

17.00 «Чудесные годы». 17.30 Большой ринг. 18.00, 21.00, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Мир кино. «Испытание любви» (Австралия). 20.35 Детям. Мультфильм «Как казаки в футбол играли». 21.35 Час сериала. «Слово». 2-я серия (США). 22.30 Времечко. 23.20 Меломания: «Мэднесс».

## Среда, 27 марта

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00, 15.00, 18.50, 0.00 Новости. 8.15 «Возвращение в Эдем». 9.10 «Золотой ключик». Телеспектакль. 10.15 «Буковка». 11.05 «Гостья из будущего». Х/ф. 3-я серия. 12.10 Зорная ростань. 12.50 Видимо-невидимо. 15.15 «Слушать в отсеках». Х/ф. 2-я серия. 16.20 Студия «Окно». «Танцевальные ритмы», «Классика дворов». 16.50 «Острый угол». 17.20 Гости в дом. 17.50 Экономикст. 18.00 К Международному дню театра. «Театральный Бомонд». 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.00 «Театральный Бомонд» (продолжение). 20.30 «Кто это?» Телеигра. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 «Инспектор криминальной полиции». Х/ф (Италия). 1-я серия. 23.45 Королевская охота. 0.40 «12, или На ночь глядя». Развлекательная программа.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 «Чтобы помнили...» Н.Рыбников. 9.45 В мире животных. 10.30 «Угадай мелодию». 11.10 В эфире телерадиокомпания «Мир». 11.40 «Место встречи изменить нельзя». 1-я серия. 14.20 «Приключения в Одиссее». 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Тет-а-тет. 16.30 Семь дней спорта. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.05 Тема. 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.30 Операция. 20.45 Программа передач. 20.50 Церемония вручения премий американской кинокамедии «Оскар-96». Трансляция из Лос-Анджелеса. 22.40 Игорь Моисеев в программе «Мужчина и женщина».

### Канал «Россия»

9.05 «Новые госпитальеры». Д/ф. 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Мульти-пульти. 10.45 «Волшебный школьный автобус». Мультсериал. 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Чья сторона? 16.20 Дальний Восток. 16.50 Никто не забыт. 16.55 Вас приглашает фирма... 17.10 Кипрас Мажейка. «Параллели». 17.25 Своя игра. 17.55 «Петербургские тайны». 19.25 Подробности. 19.45 «Маска, кто ты?» Церемония вручения Национальной театральной премии «Золотая маска». 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Рек-тайм. 22.55 «Спрут-6». Х/ф (Италия). 24.00 Виниловые джунгли.

### Санкт-Петербург

12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». Сериал. 13.10 Скорая помощь. 13.40 Советы садоводам. 13.50, 15.25, 21.40 Музыкальный момент. 14.10 «Судный день». Х/ф. 15.40 «Немецкая волна». 15.55 Стиль жизни. 16.10 Пой с нами. 16.30 Детское ТВ: «Баламуты». 17.10 Показывает областная телекомпания. 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». Сериал. 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 Час мэра. 21.00 Блеф-клуб. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.15 Сегодня — Международный день театра. 22.45 Актерский клуб.

### НТВ

17.00 «Чудесные годы». 17.30 На пути к Атланте. 18.00, 21.00, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Мир кино. Х/ф «Бешеный пес» (США). 20.35 Мультфильм «Как казаки невест выручали». 21.35 Час сериала. «Слово». 3-я серия (США). 22.30 Времечко. 23.20 Кафе Обломов.

## Четверг, 28 марта

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00, 15.00, 18.50, 0.05 Новости. 8.15 «Возвращение в Эдем». 9.10 «Будьте здоровы». 9.20 «Буковка». 10.05 «Дюймовочка». Телеспектакль. 11.15 «Гостья из будущего». Х/ф. 4-я серия. 12.20 Четвертое измерение. 15.15 Мультфильм. 15.30 Студия «Окно». «Классика дворов». 15.50 «Сельчане». 16.20 «Крок». 16.30 Уроки Н.Новожиловой. 17.00 Арсенал. Программа для армейцев. 17.30 Кредо. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 «Еще не вечер...» 18.15 «Будьте здоровы». 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.05 «Контрасты». 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 «Инспектор криминальной полиции». Х/ф (Италия). 2-я серия. 23.45 Футбол. Сборная Словакии — сборная Беларуси. Послесловие к матчу. 0.20 «Крок».

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.40 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.10 Тема. 9.50 Клуб путешественников. 10.35 Смак. 11.10 В эфире телерадиокомпания «Мир». 11.40 «Место встречи изменить нельзя». 2-я серия. 14.20 «Приключения в Одиссее». 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Рок-урок. 16.30 Семь дней спорта. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 Лотто-Миллион. 19.00 Один на один. Ведущий — А.Любимов. 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.30 Операция. 20.45 Программа передач. 20.50 Х/ф «Смерть в этом саду». 22.50 «Обоз» Ивана Демидова.

### Канал «Россия»

9.05 «Санта-Барбара». 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Музыкальный экспромт. 10.45 «Волшебный школьный автобус». Мультсериал. 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Кенгуру. 16.20 Новая линия. 16.50 Танц-экспресс. 17.05 Золотая визитка. 17.20 Лидер-прогноз. 17.50 Клип-антракт. Шандор. 17.55 «Петербургские тайны». 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 «Городок». 21.05 Момент истины. На вопросы А.Караулова отвечает И.Кобзон. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Экран криминальных сообщений. 22.50 Площадь искусств. Поет Е.Образцова. 23.35 Частная коллекция.



### Санкт-Петербург

12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». 13.10 Скорая помощь. 13.40 Советы садоводам. 13.50, 15.55, 23.05 Музыкальный момент. 14.10 Телешансон. 14.35 Мультфильм. 14.45 «Европейский телесоюз» представляет: «Посол папы в Марибо». 15.15 Стиль жизни. 15.40 «Немецкая волна». 16.00 «Европейский калейдоскоп». 16.30 Равняется любовь... 17.00 По всей России. 17.10 Показывает областная телекомпания. 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». Сериал. 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 Шведский Петербург. 20.35 Мультфильм для взрослых. 20.55 «Золотой Телец». Развлекательная программа. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.15 Старое танго. 22.35 Личное дело. 23.10 «Ключ под циновкой». Инсценировка рассказа французского писателя Марселя Эме.

### НТВ

17.00 «Чудесные годы». 17.30 Полчаса о теннисе. 18.00, 21.00, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Премия «Оскар». Х/ф «Энни холл» (США). 20.35 Мультфильм «Как казаки на свадьбе гуляли». 21.35 «Слово». 4-я серия, заключительная (США). 22.30 Времечко. 23.20 Х/ф «НАЛЁТЪ».

## Пятница, 29 марта

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00, 15.00, 18.50, 0.00 Новости. 8.15 «Возвращение в Эдем». 9.10 «Принцесса и эхо». Телеспектакль. 10.05 «Буковка». 10.50 «Гостья из будущего». Х/ф. 5-я серия. 11.55 «Мне не хватает Вас, учитель...» К 90-летию со дня рождения заслуженного деятеля искусств Беларуси Л.С.Мухаринской. 15.20 «Как рождается музыка?» 15.50 Студия «Окно». «Классика дворов». 16.20 Педагогический экран. От училища - до колледжа. 16.50 Концерт из камерных произведений Суруса. 17.30 «Под знаком «Ч». Часть 2-я «Хаты стояли на острове». Передача из Гомеля. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Издательству «Беларусь» — 75 лет. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.05 «Международный курьер». События, факты, комментарии. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 «Инспектор криминальной полиции». Х/ф (Италия). 3-я серия. 23.45 «Еще не вечер...» 0.15 Акколада.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Один на один. Ведущий — А.Любимов. 9.45 Международный фестиваль им.К.И.Шульженко. 10.25 Пока все дома. 11.10 В эфире телерадиокомпания «Мир». 11.50 «Место встречи изменить нельзя». 3-я серия. 14.20 «Приключения в Одиссее». 14.50 Кварьете «Веселая квампания». 16.30 Семь дней спорта. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 «Звезда» представляет... 18.25 Человек и закон. 18.55 Поле чудес. 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.40 Программа передач. 20.45 «Детективное агентство «Лунный свет». Сериал. 21.40 Взгляд. 22.35 Ночной кинозал. Вестерн «Бешеный пес Морган».

### Канал «Россия»

9.05 «Санта-Барбара». 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Торговый дом. «Ле Монти». 10.45 «Биоразнообразие — шанс на спасение». Д/ф. 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Продленка. 15.50 Месяцеслов. 16.20 Новая линия. 16.50 «Зорро». Х/ф. 17.45 Клип-антракт. И.Салтыкова. 17.55 Шестое чувство. 18.25 Правительственные будни. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Джентльмен-шоу. 21.10 Х/ф «Колизей». 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Музыка всех поколений. 23.10 Анализы недели. 23.40 «Любовь и магия». Х/ф (США).

### Санкт-Петербург

12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». 13.10 Скорая помощь. 13.40 Советы садоводам. 13.50, 15.05, 15.55 Музыкальный момент. 14.10 «За глаза». Музыкально-развлекательная программа. 14.35 Мультфильм. 14.55 «Твоих оград узор чугунный». Телефильм. 15.15 Стиль жизни. 15.40 «Немецкая волна». 16.00 Старое танго. 16.20 Детское ТВ: Сказка за сказкой. Ответы на письма. 17.10 Показывает областная телекомпания. 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 Людмила Сенчина сейчас и прежде... 20.30 «Отпуск в сентябре». Х/ф. 1-я серия. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.15 «Отпуск в сентябре». Х/ф. 2-я серия. 23.25 Парад парадов. Музыкальное шоу.

### НТВ

17.00 «Чудесные годы». 17.30 Футбольный клуб. 18.00, 21.30, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Русский детектив. Х/ф «...По прозвищу «Зверь». 20.30 «ТЭФИ-96»: кто есть кто. 20.40 Мультфильм «Как казак счастье искал». 20.50 «Оба-на»: Избранное. 21.35 Х/ф «Жанна д'Арк в битвах». 1-я серия (Франция). 22.30 Времечко. 23.20 Цикл Эдгара По. Лучио Фульчи. Х/ф «Черный кот» (Италия — Великобритания). 0.55 Эротические шоу мира.

## Суббота, 30 марта

### Белорусское телевидение

8.00, 21.00 Новости. 8.15 Созвучие. Передача из Витебска. 8.35 Здоровье. 9.05 Уроки Н.Новожиловой. 9.35 «Все про все». 10.00 «Ералаш». Юмористический журнал. 10.20 Европейская двадцатка. Музыкальная программа MTV. 11.05 «Приключения Буратино». Х/ф. 1-я серия. 12.10 Гурман. Белорусская кухня и кухня народов мира. 12.30 «Мир природы и увлечений». 13.20 Олимпийский силуэт. Настольный теннис. 13.40 Многоголосие. 14.10 «Творцы». Элоиза Ожешко. 14.30 Коллаж. Программа для деловых людей. 15.00 Силач. Спортивный телеклуб. 16.00 Студия «Интеллект». Научно-популярный тележурнал «Вселенная». 16.40 «Зорная ростань». 17.20 Белорусский дом. 18.00 Галерея. Режиссер-аниматор Игорь Волчек. Авторская программа Т.Егоровой. 18.35 «Ванильно-клубничное варенье». Х/ф (Франция — Италия). 20.05 Банка комиксов. 20.40 Колыбельная. 21.45 «Лучшие шоу Бени Хила» (Великобритания). 23.25 Видимо-невидимо.

### ОРТ

6.45 Телеканал «Подъем!». 7.45 Слово пастыря. 8.00, 14.00, 17.00 Новости. 8.10 Телеканал «Подъем!». 9.30 Не зевай!. 10.00 Утренняя почта. 10.35 Смак. 10.55 «Эрмитаж». «Старинное художественное оружие Западной Европы». 11.30 Елена Проклова в фильме «Единственная...». 13.10 Стинг в Москве. 13.35 Автомобиль и я. 14.20 В мире животных. 14.55 Америка с М.Таратутой. 15.25 Бомонд. 15.45 Как-то раз. 15.55 Футбол. Чемпионат России. «Спартак»(Москва) — «Спартак-Алания» (Владикавказ). 18.00 Х/ф «Свадьба в Малиновке». 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.40 Программа передач. 20.45 «Детективное агентство «Лунный свет». 21.45 Дни. 22.25 Брэйн ринг. 23.05 Фильм Луи Маля «Ваня на 42-й улице».

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.25 «Что день грядущий...» 7.30 «Вовкулакия, или Загадка доктора Никодима». 7.45 «Смотри на меня, как на равного». 8.00 Твои возможности, человек. 8.30 Большой хоккей. 9.10 Парламентская неделя. 9.55 Устами младенца. 10.25, 22.30 Служба 299-00-00. 10.40 Соотечественники. 11.10 «Кракатау: день, который потряс мир». Д/ф сериала «Тайны животных» (Великобритания). 12.05 Премьера рубрики. «Короткая память». 12.30 «Поэт в России — больше, чем поэт». 13.20 Де факто. 13.35 «Бланш». Телефильм (Канада). 14.25 Караоке по-русски. 14.45 Пилигрим. 15.30 Империя игр. «Гладиаторы». 16.20 Вокруг «Петербургских тайн». 16.50 «Петербургские тайны». 19.25 Субботний вечер с Тиной Тернер. 21.05 Двойной портрет. 22.45 Река времени. 22.50 Автомиг. 22.55 Программа «А».

### Санкт-Петербург

9.00 Актуально-насущно. 9.30 Стиль жизни. 9.45 Парад парадов. Музыкальное шоу. 10.20 Сумма суммарум. 11.05 «Наобум» встречает 1 апреля. 11.35, 18.05, 20.20 Музыкальный момент. 11.40 Мультфильм. 13.00 Театральная провинция? 13.30 «Еще одна Россия». Телемост. 15.00 «За глаза». Музыкально-развлекательное шоу. 15.30, 18.30, 21.00 Информ ТВ. 15.40 Мы и банк. 16.20 Студия «Вообрази». 16.35 Антре. Цирковая программа. 17.05 Телеканал «Не хочешь — не смотри». 17.50 Ничего, кроме... 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивная программа. 20.30 Юбилей «Светской хроники». 21.20 «Золото». Премьера худ. фильма (Россия — Италия). 22.45 «Золотая карета». А.Полотно». Музыкальная программа. 23.35 Музыкальный рай.

### НТВ

17.00 РЕН-ТВ представляет: «Дог-шоу. Я и моя собака». 17.30 Вернисаж Ильи Резника. 18.00, 21.00 «Сегодня». 18.30 Программа Сергея Доренко «Характеры». 19.10 Сериал по выходным. «Крутой Уокер: правосудие по-техасски». 23-я серия (США). 20.00 Намедни. 20.45 Куклы. 21.35 Мир кино. «Джеймс Бонд — агент 007». Фильм 6-й. «На секретной службе ее Величества» (Великобритания). 0.00 Третий глаз. 0.45 Ночной канал. «Плейбой».

## Воскресенье, 31 марта

### Белорусское телевидение

8.00 Финансовое время. 8.35 «Портрет любимой женщины». Д/ф. 9.15 «Конан». Мультсериал. 9.49 «Все дело в шляпе». Развлекательно-познавательная игра-викторина. 10.05 Мультиклуб. 10.35 Лучшие хиты MTV. 11.05 «Приключения Буратино». Х/ф 2-я серия. 12.15 Туробъектив. 12.35 Все нормально, мама! Развлекательная программа. 13.05 Студия «Окно». «Накануне будущего». 13.40 Телебом. На фестивале «Хали-Хало». 14.35 Авто-парк. 14.50 «Дикий юг». Научно-популярный сериал. 15.20 Победитель. Спортивная программа. 15.40 Гости в дом. 15.50 «Вершина мира». Подведение итогов и вручение призов победителям. 16.20 Бездельник. 16.50 Х/ф «Солярис». 19.40 Колыбельная. 20.00 Резонанс. 20.50 Новости-ТВ. 21.05 Ток-шоу «Карамболь». 21.40 Х/ф «Катерина и я» (Италия). 23.30 «Бархатный сезон». Музыкально-развлекательная программа.

### ОРТ

6.50 Тираж «Спортлото». 7.00 Телеканал «Подъем!». 8.00, 14.00, 17.00, 23.00 Новости. 8.10 Телеканал «Подъем!». 9.25 Пока все дома. 10.00 Утренняя звезда. 10.50 Из первых рук. 11.00 Служу России! «Армейский магазин». 11.30 Играй, гармонь любимая!. 12.00 Провинциальные истории. Воронеж. 12.25 Под знаком «Пи». 12.55 Смехопанорама. 13.30 Приключенческий сериал «Пираты». 14.20 «Богема» Дж. Пуччини в цикле «Оперные истории». 15.15 Клуб путешественников. 16.15 Мультфейерверк: «Легенды острова сокровищ», «Приключения Вуди и его друзей». 17.20 «Ералаш». 17.50 Футбольное обозрение. 18.20 Клуб «Белый попугай». 19.10 Х/ф «Американская дочь». 21.00 Воскресенье. 21.55 Программа передач. 22.00 «Детективное агентство «Лунный свет». 23.10 Любовь с первого взгляда.

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.25 «Что день грядущий...» 7.30 Первый дубль. 7.45 Теремок. 8.00 Ретро-шлягер. 8.30 В мире авто- и мотоспорта. 9.00 Доброе утро, Европа! 9.30 Аты-баты... 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Русское лото. 10.55 Торговый дом. «Ле Монти». 11.00 Телеконкурс юристов. 11.30 Футбол без границ. 12.15 Книжная лавка. 12.45 Горячая десятка. 13.20 Не вырубить... 13.35 «Бланш». Телефильм (Канада). 14.25 Глядя из Лондона. 14.55 Песня России. 15.50 Богема. А.Вайда. 17.00 Волшебный мир Диснея. «Чокнутый», «Аладдин». 17.55 Снимается кино... 18.00 Колесо истории. 19.25 Х/ф «Леди Макбет Мценского уезда». 21.00 Телекросс. 21.15 Мультфильм для взрослых. 21.25 У Ксюши. 22.30 Служба 299-00-00. 22.45 Река времени. 22.50 Автомиг. 22.55 Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1». Гран-при Бразилии.

### Санкт-Петербург

8.00 Это ваш день. 8.25 Целительное слово. 8.55 Стиль жизни. 9.10 Страсти-мордасти. 9.25 «Черри 2000». Х/ф (США). 11.00 Храм. 11.30 Россия. Выбор пути. 12.00 «Барабашка-ТВ». Клоунада. 12.15 «Настоящая любовь». Х/ф (США). 13.55 Классика-5. Зураб Соткилава в Санкт-Петербурге. 14.30 Детское ТВ. «Золотой ключ». Бросайка. 15.35 Мультфильм. 15.55 Пой с нами. 16.15 «Посмотрим». Анонс телепрограмм. 16.30 Телешансон. 16.55 Чемпионат Италии по футболу. 19.00 Информ ТВ. 19.25 Ура! Комедия. «Монашки в бегах». Х/ф (Великобритания). 20.55 Музыкальный момент. 21.00 Международное обозрение. 21.25 Ноу смокинг. 22.10 «Шанхайский сюрприз». Х/ф (США).

### НТВ

17.00 Кинотеатр юного зрителя. «Полицейский Кэттс и его собака». 28-я серия (США). 17.30 Телеигра «Сто к одному». 18.00 «Сегодня». 18.30 Музыкальная программа «Овация». 19.00 «Крутой Уокер». 19.50 «Оба-на»: избранное. 20.00 Итоги. 21.10 Мир кино. «Куигли-австралиец» (США — Австралия). 23.20 Лучшие шоу и варьете мира. «Страсть и танго». (Аргентина).

